ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЕРШЫ АСОБНЫ НУМАР 40 ГРОШ.




Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
**ВІЛЬНЯ, Завальная вуліца, № 7**
Беларуская Кнігарня. «МАЛАНКА»

**№ 6**
**2 САКАВІКА**
**1926 г.**

ПАДПІСНАЯ ЦАНА:
на 1 год 8 злот.
„ паўгоду 4 „
„ тры мес. 2 „
„ адзін м. 1 „
За граніцу: на год—тры даляры, на паўгоду—1 д. і 50 цэнт.



По загаду Камісара Ураду на м. Вільню № 5 „Маланкі“ ад 1-га сакавіка с. г. **сконфіскаваны** за:

1) Рысунак **Ю. Ш.** і надпіс пад ім, зьмешчаныя на першай страніцы.
2) Верш: **„Рад-бы ў рай, ды грахі ня пускаюць“**, сатыра **Я. М.**
3) **„Сьмейся браце!“** лірычны верш **Краўцовага Макара.**
4) Верш пад рысункам: **„З баданьня“**, сатыра **Я. М.**

# „МАЛАНЦЫ“.

Цераз горы, праз даліны
Ты ляціш да родных стрэх,
Ты нясеш для Беларуса
Свой жывы, здаровы сьмех.

Столькі радасьці, пацехі
Ты да нас з сабой нясеш!
Ты усё, усё падглядзіш,
Усё апішаш, асьмяеш.

Ты змагаеш перашкоды
Бязупынна йдзеш ўпярод!
Знаю я, табе — удзячны
Беларускі наш народ!..

*Я. М.*



# Памяці Шэвчэнкі.

Кожнага году 10 і 11-га сакавіка Украінскі Народ сьвяткуе успамінкі нараджэньня і сьмерці найслаўнейшага песьняра свае зямлі *Тараса Шэвчэнкі.*

Рэдакцыя „Маланкі" зьмяшчае гэты прыгожы верш Янкі Купалы, пасьвячоны памяці вялікага песьняра і барацьбіта за праўду і волю працоўнага народу.

Ад гасьцінца да гасьцінца,
Ад хаты да хаты
Зьвініць кобза украінцам
Аб вялікім сьвяту:
Уся чыста галасіста
Украйна маладая
Свайго „бацьку" кабзарысту
Важна ўспамінае.
Месца даў яму пачэсна
Бедны і багаты;
Расьпяваюць яго песьні
„Парубкі", „дзівчаты".
Эй, бо песьня кабзарыста
Ад краю да краю
Плыве вольна - расхадзіста,
Перашкод ня знае!
Сам ён многа меў нядолі,
Крыўды, паніжэньня
Ды ня здрадзіў - жа ён волі,
Волі і сумленьня.
Дух збудзіў свайму народу
Сваім гучным словам,
Навучыў любіць свабоду,
Родны край і мову.
Яго „бацькам" ахрысьціла
Памятна Украіна.
Эх! і нам будзь бацькам мілым,
Украінча слаўны!
Плывучы ўдаль твая песьня
Гасьцінцам ня вузкім,
Нашла водгалас, пачэсне
У сэрцы беларускім.

**Янка Купала.**

**С. КАЛІНЕЦЬ.**

# Міравы суд.

(*З украінскага*)

У вагоне, ў трэцьцяй клясе,
Сядзяць дзьве пані і мужык.
Адна пані, быццам бочка,
Другая тонка, як індык.

У кутку мужык драмае,
Цягнік вале, аж гудзіць,
Пані вакно адчыняе
І на сьвет ужо глядзіць.

— Не адчыняйце вакна, пані,
Бо памру ад скразьніку, —
Кажа тоўстая й махае,
Як крыло у ветраку

— Я магу тут задушыцца:
Тут задуха, што аж страх, —
Кажа тонка, а грубая
Ідзе да вакна і... трах!

У момант вакно зачыніла,
А перша адчыняе зноў;
Вось да сваркі прышло хутка
Зуб за зуб і кроў за кроў!

Аж надходзе сам кандуктар,
Што такое? — запытаў...
І, дазнаўшы ўсё да крышкі,
Прыгавор такі ён даў:

— Хай рассудзіць вось сялянін,
Што ў салодкім драмаў сьне,
Хай ён скажа бесстаронна:
Адчыняць вакно, ці не?

— Я скажу вам шчыра слова,
Што найлепш ужо зрабіць:
Перш вакно трэ' адчыніці
Каб таўстую тым забіць!

А пасьля трэ' зачыніці,
Каб мог чорт другую ўзяць,
Тады я ужо спакойна
Далей мог-бы сабе спаць!

**Янка М.**

# ЖАРТЫ.

## Ня слухае.

*Матка*: Глядзі, Сымонька, ня будзь такой натуры, як твой татка, — калі дзе трэба, дык цмокні пана ў ручку... бо помні, што ласкавае цялятка дзьве маткі сьсе!

*Сын*: Ці-ж праўда? А я чуў, што ўсіх тых дурных машына парэзала, што панам, папом, ксяндзом у рукі цалавалі, дык і я баюся, каб і са мной тое ня сталася, — хай яму лепей тая рука адсохне, калі я...

— Не, сыночак, нічога злосьцяй ня зробіш, усюды трэба пакорай...

— Але вун наш конь буланы занадта пакорны, — дык у хамуце ходзіць!

## ? ? ?

— Што трэба зрабіць, каб спалянізаваць беларусаў?

— Перад усім трэба іх зазнаёміць прымусова з нашай высокай асьветай і нашымі заходня эўрапэйскімі інстытуцыямі, а калі гэта будзе немагчыма, можна будзе пашыраць асьвету ў крымінале, турмах, Лукішках, паліцэйскіх і вайсковых пастарунках, дый у іншых установах і ўсюды трэба старацца, каб ясна ўваччу рабілася беларусам...

Кун.

## Грамадзяне!

Рэдакцыя стараецца з кожным нумарам паляпшаць „Маланку“, але цяжкае матар'яльнае становішча гэтаму на перашкодзе. Дык падпісвайцеся самі і заахвочвайце сваіх суседзяў да падпіскі.

Хай пашыраецца Ваша родная „Маланка“. (Падпісная цана на тры месяцы — 2 злотыя).

*Адрэс*: Вільня, Завальная вул. №7

Рэдакцыя „Маланка“.

## Сварка.

Ганна з Мартай мелі сварку.
— Ты дурніца! — Ты ведзьмарка!
— Така сама, дабрадзейка!
Слухаў чорт вось гэта, слухаў.
Дый матаў сабе на вуха
І шапнуў праз зубы, ледзьве:
„Ну і ведзьмы-ж вы абедзьве!“

П. М.

## УСЕ ЛАЮЦЬ.

У Варшаве праходзіць вуліцаю міністар Грабскі і бачыць, што натаўп абступіў нейкага арыштованага:

— Пусьцеце яго! пусьцеце!— крычаць.

Зацікаўлены міністар затрымаўся і пытаецца ў паліцыянта:

— За што арыштавалі гэтага ягамосьця?

— Ён лаяў парадкі і дзяржаву...

— Няпраўда! — крычыць натаўп, — ён лаяў толькі Грабскага!

— Калі так, дык можаце яго пусьціць. Мяне і без таго ўсе лаюць.

„*Зиз*“.

## „Грамадзкая“ кнігарня.

Калісь я напісаў поэму.

Надрукавалі...

Але таму што ў выдавецтва гатоўкі не хапала на тое, каб ёю выплаціць мне гонорар, дык я мусіў згадзіцца на гэткія варункі:

Выдавецтва плаціць мне, што можа, а рэшту ўмоўленае сумы маецца сплаціць праз „сваю“ кнігарню, як толькі будзе прадаты пэўны лік экзэмпляраў надрукованае поэмы на патрэбную суму.

І гэта добра. Кніжкі таксама — капітал...

Прайшло два гады. Настаў агульны эканамічны крызыс, які мяне дапёк хіба наймацней за кожнага з грамадзян Рэчыпаспалітай.

Бо я грамадзянін, але так сабе нейкага III гатунку. Па мэтрыцы — праваслаўны, па нацыянальнасьці — беларус, па пераконаньнях...

Але-ж тпру!..

Далёка запісаўся.

Лепей прамаўчаць...

Іду да пана Кнігара, да нашага грамадзкага кнігара, пастаўленага ведаць справамі нашае беларускае Кнігарні ў самым належным грамадзкім парадку.

— Так і так, — кажу, — пане Кнігару.

Крызыс.

Безрабоцьце.

Недаед.

Нуда.

Ёсьць тут недзе за Вамі г. знач. за Кнігарняю рахуначак. Заплацеце, што можаце. Колькі там разыйшлося мае поэмы?

— Ды цяпер усё жыцьцё масьль... Э, ды што я хацеў сказаць,—нудзьліва адказваў п. Кнігар,— усё жыцьцё цяпер — поэма. Гэта-ж ня жарт. Во, во, во!..

Пачаў мне паказваць кнігар розныя „наказы платнічэ“.

На маё шчасьце, ў Кнігарню зайшла адна з галоваў Выдавецтва. А кнігарня наша лічылася ўласнасьцю гэтага выдавецтва.

Я ізноў спачатку: — Крызыс і г. д. Эксцэленцыя, ратуй!

Галава паважным тонам дала зразумець кнігару, што мне выплаціць трэба. Няшмат-жа там...

Кнігар дакляраваў... *каля першага*... Праўда, што пасьля дакляраванага *першага*, месяца цераз паўтара я адтрымаў ад яго на... цукер і гарбату.

Скумячыўшы грошы, я ўцешыўся, што ўжо лёд пайшоў — выплата гонорару пачалася.

Але ў тую-ж ноч прысьніўся мне п. кнігар.

Куды падзелася яго флегматычнасьць?

Вясёлы, адважны, шустры і хітры, як ліс, ён стаяў за сваім прылаўкам у „сваёй“ кнігарні і моцна некаму гразіў абедзьвюма, паднятымі ўгару, рукамі:

— Што, — крычэў п. кнігар. — Фігу вам... Выдавецтва? Якое выдавецтва? Кнігарня мая! Забірайце сабе свае кніжкі, якіх я яшчэ не пасьпеў прадаць! А мне што? Кватэра мая, патэнт мой, падаткі я плаціў. А ці плаціў хто мне? Я-ж служыў, служыў у Выдавецтве. Некалькі гадоў! Дзе мая пэнсія?

У глухой провінцыі, у адзінотнай хатцы прабудзіў мяне сьвіст ветру, ўдараўшага ў вокны.

Я пачасаў патыліцу й падумаў:

— „Бывай! ты, мілая поэма!“...

**Звончык.**

# Нічога у Польшчы не паправілася...




Быў міністар Грабскі, што падаткі зграбаў...



... а пасьля настаў міністар Скшынскі, што замкнуў у скрынку.

## Як у нас разумеюць „панскую гутарку“.

Вязе сялянін гонты, а насустрэч едзе пан.

— Звруць з дрогі! — гукае пан.

— Не, ня вельмі дарагі, тры злотых за капу.

— Сконт ты? — пытае пан.

— Але, але, паночку, за гонты! — адказывае сялянін.

— З якей ты всі? — пытае пан сярдзіта.

— Дзе там у чорта ўсе, яшчэ за тры вазы не забярэш!

— З дарогі зьедзь, доўганосы! — злуе пан.

— Калі ласка! — адказаў сялянін і ўзяў свой нос ды павярнуў у старану кажучы:

— Едзь, панок, калі табе мой нос перашкаджае! **М.**

# Сучасныя бандыты.




Абшарнік-паляк Канстанты Развадоўскі, валадар маёнтку Людвікова, Драгічынскага пав., Берасьцейскага ваяв., даведаўшыся аб тым, што сялянка Матрунка Кравец адтрымала з Амэрыкі значнае адшкадаваньне за свайго забітага на вайне мужа, уварваўся разам з хурманом увечары ў яе хату ў в. Ялоча. Напаўшы на Кравец, якая была адна ў хаце, і схапіўшы яе за горла, „прыраджоны валадар“-бандыт загадаў свайму хурману шукаць даляраў...

(„Беларуская Ніва“ 25. II. 26 № 16)



**Польскі барон Ян Бісьпінг на сваім судовым працэсе ў Варшаве сам прызнаўся:** што ў канцы 1918 году асабіста падпаліў вёску Рымуцеўцы (ў Горадзеншчыне), ў якой было 27 хат і ўласнаручна застрэліў з рэвальвэра аднаго селяніна, (а адзін селянін быў хворы на тыфус і згарэў у падпаленай Бісьпінгам хаце).

(„Беларуская Ніва“ 10. II. 27 № 11)

## Дзе знайсьці „працу?“

Каля мясцовага рынку - галі— спаткаліся два безработныя:

— Працуеш? — пытаецца адзін.

— Дзе там? — адказвае бядак.

— Дык зайдзі ў „Часовую Раду“ (гэтак цяпер завуць готэль Сакалоўскага на Нямецкай вуліцы).

— А што?

— Ды патрэбны там беларусы.

— Нашто?

— А чорт іх там ведае! Мусі, каб „раду“ гэтую зрабіць.

— Але-ж я — расеец?...

— Якраз гэткія там і патрэбны. Сып, браце! Не марнуй часу.

— А ніхто яшчэ ня ведае.

— А ні дух!

— Колькі-ж плацяць?

— Таргуйся і бяры наперад, бо ашукаюць, як і мяне.

**Бадзяка.**

## На сьледстве.

Сьледчы судзьдзя робіць агляд месца, дзе быў зроблены праступак, а яго пісар запісвае ў пратакол:

„. . . на стале знайшлі бутэльку з зуброўкай...“

— Э, пачакайце, — кажа сьледчы, — трэба-ж пакаштаваць, ці тут праўдзівая „зуброўка“? Гэта вельмі важна для справы.

Пакаштаваў і кажа:

— Пішэце, што „ў бутэльцы была „зуброўка“.

— Не, гэта, здаецца, ня „зуброўка“, а „пярцоўка“, — кажа пісар і здорава глынуў з бутэлькі.

— Ня можа быць!? — зьдзівіўся сьледчы і яшчэ прылажыўся да бутэлькі.

— А што? „пярцоўка“—стараўся пераканаць яго пісар і яшчэ глынуў са смакам.

Сьцісёнуў плячыма сьледавацель, ды кажа:

— Пішэце ў пратакол, што на стале знайшлі парожнюю бутэльку і ніяк не маглі даведацца, што ў ёй было.

**Г. Л.**

## У гімназіі.

На лекцыі беларускай мовы вучыцель пытаецца ў вучня:

— А скажэце мне, калі ласка, хто такі Янка Купала: ці гэта праўдзівае прозьвішча аўтора?

Вучань ня ведае і поркае нагой другога вучня, каб яму падказаў. Адзін з таварышоў шэпча: *псэўдонім...*

Праудзівае яго прозьвішча: Псэўдонімаў, — сьмела адказвае вучань.

## Трэба — ня трэба.

На пастарунак прыходзе кабеціна і прыносіць клунак з маслам.

— Што гэта, — пытае яе камэнданціха.

— Масла, панечка, сьвежае, добрае!

— Добра, што прынясла, а то ў мяне сваё канчаецца, — адказвае камэнданціха і перакладвае сабе масла на талерку.

Кабеціна пастаяла, патупала нагамі на адным месцы, ды пытаецца:

— Ці можна ўжо ісьці?

— А што ж, ідзі, — ты мне непатрэбна!

— А хто-ж мне за масла заплаце?

— Забірай сабе назад сваё масла, — ніякага масла я ня купляю!

Доўга дзівілася кабеціна, чаму гэта камэнданціха была ласая на масла, а купляць не хацела.

**Галька.**

## Трапіў свой на свайго

Хлопец забраўся ў камору, зьеў каўбасу, дый пасьля жлокчаць ваду і дзівіцца:

— Вось калі бяда, што п'еца гэтак вада!

Брат яго, пачуўшы гэта, дагадаўся ў чым справа, таксама пайшоў у камору, зьеў там другую палову каўбасы, падышоў да вядра з вадой і кажа:

І мне хочацца вады, — бо і я зьеў поўбяды!

*Н. Н.*

## Ня ведае.

Запыталіся ў аднэй бабы:

— Скажы, бабулька, колькі ўжо маеш гадоў?

— Колькі гадоў? А хто яго ведае! Паненкай была 16 гадоў, замужам жыла 42 гады, удавой пражыла 7 гадоў, дый у дачкі ўжо 8-мы год жыву, — дык вось і рахуйце сабе.

## Незалежны.

— Ты кажаш — начальнік! Пляваць я хачу на начальніка! Я вось аднойчы йшоў за ім, узяў наступіў яму на нос.

— Што?

— На нос яго ценю наступіў!

— Ага... Ну, што-ж было?

— Ну, й нічога... А нічагусенька мне за гэта ня было!

## Трэба паваражыць.

— Як ты думаеш, а цяпер ці сконфіскуюць новы нумар? — пытаецца супрацоўнік „Маланкі" ў свайго таварыша.

— Трудна ўгадаць наперад, што можа падабацца пану рэфэрэнту з прэсовага аддзелу.

— А чаму „Авадня" ніколі не канфіскавалі?

— Бо бачыш, рэдактарам яго быў хірамант — графолёг і наперад мог ведаць што пісаць, а што ў кошык кідаць.

**Крапіва.**

## На „Крэсах Усходніх".

Пан клапоціцца на „крэсах",
Аб чыіх ён інтарэсах? —
Можна бачыць і сьляпому —
Не аб нашых-жа вядома,
Воўчы зуб не памагае,
Дык палітыка другая
У яго, як бач, пасьпела —
Хвост пусьціць лісіны ў дзела;
Ходзіць, губкамі мыляе,
Констытуцыяй віляе,
Мажа губы, гладзіць вусы
Ён хахлу і беларусу:
„Мы вас любім, мы вам рады,
То чыноўнікі ўсе гады
Вас там крыўдзілі дагэтуль —
Мы пакажам ім за гэта...
Вось вам цацак (папяровых),
Вось вам школы, вось вам мовы...
Ходзіць пан лісой — хітрушкай
Перад крэсаваю птушкай.
Беларус, глядзі ня каркай,
Бо адчуеш сваім каркам,
Чаму пан такі стаў добры:
Кось-кось-кось — пакуль ў аглоблі,
Потым па баку дугою
Ды ў жывот яшчэ нагою.

## Як ня прыкра, але праўда.

Мікіта вязе воз збожжа. Калёсы пішчаць. Кабылка-бабулька часта становіцца. Мікіта, аднэю рукою, ўпёршыся ў ручку, папіхае, а другою сьцёбае кабылку.

Куды гэта, Мікіта? — пытае Марцін.

— К папу. Ось жаню сына. Прыходзь на вясельле.

— Каб ты запуставаў... Ці-ж ня можна было-б другі раз завязьці. Пэўна пудоў 20 будзе?

— „Дваццаць пяць" — насілу прагаварыў Мікіта.

— А шмат яшчэ засталося? — зацікавіўся Марцін.

— „Дзе там засталося, пудоў пяць пазычыў. Але-ж цяпер вясна, як-небудзь крапіўкаю перакідаемся да новага". (Як ня прыкра, але праўда).

**Сякі — такі.**

## Махорка.

Дзядзька з люлькай сеў ля хаты, йшлі па вуліцы салдаты.
— Добры вечар, дабрадзей!
Прыкурыць дай з люлькі тэй.
Прыкурылі — пашлі проч.
Дзядзька сплюнуў і бармоча:
— Ліхім ветрам занясло
На мяне такое зло —
Папяроскай, шарлатане,
Ўсю махорку запаганіў.

**П. Маслоўскі.**

## Стары і сьмерць.

Прэ дзядок старэнькі з лесу
Дроў бярэмя, як падняць,
Чыста змучыўся, спацеўшы
Сеў на ім адпачываць.

Сеў дый кажа: — „Эх, пакута!
Вось прыждаў пад старасьць лет...
Каб хутчэй як сьмерць забрала
Мяне згэтуль на той сьвет".

Калі гляне — смерць пад бокам,
Аж затросься мой стары,
— „Тут я, — кажа, — дабрадзею,
Чаго клікаў без пары?...

— Ды я вось... кажу... аб тое...
Стаў старэнькі лепятаць
— Бачыш вось... каб дроў бярэмя
Мне пасобіла падняць.

**Міхась Васілёк.**



Крапіва.

# Ігрышча.

Нешта сёньня у Агаты
Лямпа весела гарыць,
А людзей дык поўна хата, —
Так, як дзьверы зачыніць.

У яе, бач, грышча сёньня,
Дык сышлася вёска ўся;
Сьцёпка ціскае гармонік,
Той пішчыць, як парася.

А пад піск той сярод хаты
Дык аж стогнуць, бы аруць,
Скачуць хлопцы і дзяўчаты —
Вобуй бацькаўскі дзяруць;

Ўсе сапуць, аблiты потам,
Як улетку ў сенакосс;
Як каторы тупне ботам, —
Здэцца, зломіцца памост.

Як ідзе-ж Паўлінін Тодар,
Дык аж дзівяцца ўжо ўсе:
Да работы, здэцца, лодар, —
Тут, як чорт яго нясе.

А вакол стаяць дзяўчаты,
Шмат хлапцоў, мужчын, кабет,
Тут сынок ды тут і тата,
Тут і ўнучак, тут і дзед.

Між вялікіх лазяць дзеці,
Так, як мышы між снапоў,
Ім вядома ўсё на сьвеце,
Хто што робіць з дзяцюкоў:

Дзе дзяўчыну хто абніме,
Пацалуе, ці ўшчыкне —
Не схаваешся за імі
Ты ні ў сенцах, ні ў гумне.

Гоман, крык стаіць вялікі,
Сьмех дзяўчат і дзяцюкоў,
Падчас лаянка і дзікі
Град адборных мацюкоў.

Бела-сіні, надта горкі
Лезе ў вочы, есьць да сьлёз,
Душыць горла дым махоркі,
Самагон зрывае нос.

Вось — забава для вялікіх,
Вось — навука для малых:
Ў самагонцы, скоках дзікіх,
Ў мацюкох заместа кніг.





Чаму-ж мне ня гуляць?
І не баляваць?
Калі-ж ў маей кішэні
Грошыкі бражджаць!

Калі на мяне работнікі
Цурком пот ліюць
І хоць самі з голаду
Ня жывуць — гніюць,

Сваю працу цяжкую
Пану аддаюць!
Чаму-ж мне ня гуляць?
І не баляваць

Калі мне з „банку польскага“
Грошыкі ляцяць!
Як ня хопіць фабрыкаў,
Грошы прападуць, —

Мне пазычку добрую
Са скарбу дадуць,
А як праматаю ўсё, —
Яшчэ дададуць!

Чаму-ж мне ня гуляць?
І не баляваць?
Бо мне, *пану вялікаму*,
На ўсё напляваць!..

**Янка М.**

## РОЗЬНІЦА.

— Адгадай мне, Яўхім, чым розьніцца блыха ад падаткаў?

— Ніякае розьніцы: блыха кусаецца і падатак кусаецца!

— Не, ня ведаеш! Ёсьць розьніца: падатак грызе чалавека праз увесь дзень, а блыха праз усю ноч.

**М. Г.**

# Дарадзіла.

„Клін — клінам выганяй!“
(*народная прыказка*).

Курыў Антон на печы люльку,
Крактаў, соп і ўсё смаркаўся,
А больш з за коміна на Юльку
Ён левым вокам углядаўся.

На лаве кужаль Юлька прала,
Антона ўчуўшы енк ды стогн,
Нязнаўшы справа ў чым спытала:
— Чаго ты войкаеш Антон?

— Жывот штось, ведаеш, бунтуець,
Мо' зельле маеш, дык давай,
А то хто-ж болей паратуець...
А не, дык сьмерці вось чакай!

Відаць, што Юлька зельле мела
Якое? (ня усім казаць)...
Як толькі Юлька з печы зьлезла,
Дык перастаў Антон стагнаць.

Казалі толькі, што бяз мала
Ад тэй пары амаль за год
І Юлька крэпка, ох! стагнала;
І беднай ёй балеў жывот.

**Я. Башкір.**

## Цікавае здарэньне.

Пан ехаў самаходам да двара Раптам, на завароце дарогі, ўбачыў шофэр нейкага чалавака са стрэльбай, а з боку яго ішоў сабака. Чалавек гэты пасьпеў асьцерагчыся, адскочыўшы ў бок, а сабака папаўся пад колы самаходу і згінуў на месцы.

Пан затрымаў машыну і пытаецца ў таго чалавека:

— Перапрашаю, ці гэта ваш сабака?

— Але, мой!

— Ці вы ёсьць яго праўны ўласьнік?

— Але, — я!

— Пераехалі мы яго! Але, здаецца мне, што гэты сабака быў нядобрай пароды і ня вельмі дарагі?

— Але, але!

— Ці хопіць вам за яго 20 злотых адшкадаваньня?

— Хай будзе так!

Чалавек схаваў грошы ў кішэнь, ветліва пакланіўся і хацеў адыйсьці, а пан яму кажа на разьвітаньне:

— Перапрашаю, што папсаваў вам паляваньне...

— Паляваньне? Якое там паляваньне?! Гэты сабака быў вельмі стары і да ніякага паляваньня нялдатны, — вось я яго і вёў да лесу, каб яго самога застрэліць.



## На балі.

На, вось, гэты цудоўны брылянтовы пярсьцёнак. Каб яго набыць для цябе, дык звольніў з фабрыкі ізноў пяцьдзесят работнікаў.

(Mucha)

## Ад чаго вецер?

— Скажы, дзядзька, з чаго вецер робіцца?
— Вось, дурань! Зірні ўгару, што там ёсьць?
— Неба!
— А ўнізе?
— Зямля!
— А пасярэдзіне?
— Дый нічога!
— Дык вось вецер дзьмухае, — скразіць!

С. Ч.

## Ня будзь пэўным!

— Ты куды сьпяшаешся?
— Лячу ў суд!
— Дык мы з табой ня хутка ўбачымся?
— Чаму? — Я хутка вярнуся!
— Не, братка, ня можна ручацца. Мой адзін знаёмы пайшоў на пару гадзін, а вярнуўся... цераз два гады.

Ст. С.

## У судзе.

*Судзьдзя*: — Ці ведаеш, што гусі вельмі кепска красьці?
*Злодзей*: — Але, ведаю, пане судзьдзя! Яны вельмі крычаць.

## Чаму?...

— Чаму гэта ангельцы і немцы ня хочуць пусьціць Польшчы ў Лігу Народаў?
— Яшчэ Польшча не папала ў Лігу, а ўжо дала нам фігу, а калі будзе засядаць, дык дасьць нам цэлых пяць.

Янка М.

## Усё йдзе паводле новага календара.

Сьвякроў сварыцца з нявесткаю, ды зьневажае яе:
— Іш ты, брыда! якою была да шлюбу, такой засталася й цяпер: абы ўбачыла дзе хлапца, дык зараз жарты заводзіць!
— Што, мамка, наракаеце, — можа перад шлюбам што недарэчнае зрабіла?
— А можа не?! На веснавога Міколу шлюб бралі, а ў два тыдні пасьля Вадохрышча хрысьціны былі.
— Маўчы старая, — адгрызаецца нявестка. У вас усё паводле старога календара, а я жыву пановаму.

Стары Чмель.

## На вуліцы.

— Трымайся, сынок, за сукенку, а то застанешся!
— Калі-ж, мамка, сукенка вельмі кароткая,— не дастану.

## Гадзіньнік—мой!

— Ах вось бяда!
— Якая?
— Ды вунь у таго пана, што ў зялёным капялюшы, жулік нядаўна залаты гадзіньнік выцягнуў.
— Ну, а табе што да гэтага, чаго ты бядуеш?
— Як чаго?! Гэты гадзіньнік, дык ужо быў мой.
— Якім парадкам?
— Гэта-ж я прыбіраўся яго перш украсьць!

С. Ч.

Рэдактар-выдавец Янка Касяк. Друкарня Б. Клецкіна, Вільня